Чытайце ў нумары: СЦЕЖКАМІ ВЯЛІКАГА ПАЭТА · ФЭСТЫН У СТАРЫМ ЛЯЎКОВЕ · У ЛАСІНЦЫ ПАНУЕ РУХ


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 41 (502) | ГОД X | 10 КАСТРЫЧНІКА 1965 года | ЦАНА 60 гр.


НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ЗАЎСЁДЫ САЛДАТ



Сустрэў мяне чалавек сярэдняга росту, з дабрадушным тварам, які пастаянна раз'ясняе дабразычлівая ўсмешка. **Генерал САМУІЛ МАЛЬКО.**

Мы ў Варшаве, у памяшканні генерала.

— Распранайцеся, калі ласка, будзьце госцем, — просіць генерал. Мы селі за сталом.

**— З нагоды дня Войска Польскага хацеў бы прасіць у Вас інтэрв'ю для нашага тыднёвіка...**

— Беларусаў успамінаю я заўсёды з глыбокай сардэчнасцю. Яны мне шчыра дапамаглі ў найбольш цяжкі час майго жыцця, у час суровага падпольнага змагання.

**— Вось менавіта, пакуль сталі Вы салдатам Войска Польскага, былі ўжо салдатам рэвалюцыі. Калі і як гэта здзейснілася?**

Хвіліна глыбокай задуменнасці.

— Мая дарога ў рады рэвалюцыянераў, — гаворыць генерал, — нічым асаблівым не адрознівалася ад дарогі многіх другіх маіх равеснікаў. Нарадзіўся я 60 год таму назад на Палессі ў сям'і вясковага бедняка.

Першая сусветная вайна застала мяне ў школе. Мабілізацыя, паход салдат на фронт, роспачныя развітанні.

Адна сярод чарговых мабілізацыйных хваляў захапіла ў салдаты майго бацьку. Астаўся я з бездапаможнай маці.

Асабліва важным у маім жыцці быў 1917 год. Адной сакавіцкай раніцай увайшла ў клас неяк адменена наша класная выхавацельніца. Прывітаўшы нас як звычайна, яна заявіла ўсхваляваным голасам:

— Няма цара! Ён звергнуты! Успыхнула рэвалюцыя!

Мы астаўбянелі. Дапытлівым позіркам глядзелі на класную выхавацельніцу.

— Што цяпер будзе? — гаварыў наш позірк.

— Не бойцеся, горш не будзе, — адказала настаўніца і пачала расказваць пра справы, аб якіх нам, юнакам, ніхто яшчэ не гаварыў. Упершыню ў сваім жыцці пачуў я словы праўды пра цара, пра вайну, пра рэвалюцыю і аб правах простага люду.

Шумна святкавалі мы Першамай. Цэлай школай прымалі ўдзел у маніфестацыйным паходзе. У галаве шумела ад уражанняў. Чырвоныя сцягі, ваенны аркестр, прамовы і песні. Прамоў я не зусім яшчэ разумеў, але песні — так прыгожыя, простыя і баявыя. Былі яны першай азбукай маёй палітычнай граматы.

«Отречёмся от старого мира!» «На бой кровавый, святой и правый, марш марш вперед, рабочий народ!»

Словы гэтыя ўзнімалі на барацьбу, бы трывожны звон.

А потым прыйшоў кастрычнік. Высакародныя словы праўды сілай народнай волі пераўтвараліся ў рэвалюцыйныя чыны. Рэвалюцыйныя падзеі і савецкая школа фармуюць першыя асновы майго кругагляду. Пачаў я хадзіць на шматлікія мітынгі.

— Чаго вам тут, малакасосы! — часта праганялі нас старэйшыя. Але арганізатары мітынгаў, асабліва ваенныя камісары, ахвотна нам давяралі розныя заданні. Мы былі і пасланцамі, і разносчыкамі лістовак і ўсялякай іншай літаратуры.

(Працяг на стар. 4)

НОВЫЯ ВЕРШЫ

## ІВАН КАЛЕСНІК

* * *

Ёсць на свеце станцыя такая,
Што мяне з усіх дарог гукае.
Песняй — кліча на прадвесні,
Як дзяўчына, кліча і чакае.

Ёсць на свеце станцыя такая.
Што мяне, як госця, сустракае.
Летам — тапалевым цветам,
Снежным пухам сцежкі пасыпае.

Ёсць на свеце станцыя такая,
Што як маці родная чакае.
Восень — на спатканне просіць,
У грыбных лясах мяне гукае.

Ёсць на свеце станцыя такая,
Што са мной, як успамін, блукае.
Вее — сіверам завея,
Але к ёй дарог не замятае.

* * *

Спявае неба, луг і поле,
І вее халадком з крыніц.
Прынесла лета у прыполе
Духмяных чэрвеньскіх суніц.

Смакуюць ягаду малыя...
А пасівелыя дзяды
Гады прыгадваюць былыя,
Крануўшы іней барады.

Тугі і весялосці болей,
Што дзень за днём, як міг, бяжыць.
Калі так звоніць луг і поле,
Смуга паўдзённая дрыжыць.

### РЭЧКА ЛЕБЕДЗЬ

Паплавы...
Паплавы...
Гэткіх выпасаў
Я не бачыў яшчэ нідзе.
Як мяцеліца, птушнік высыпаў
І трымаецца на вадзе.

Гусі-лебедзі ў рэчцы Лебедзь
Залатыя аблокі цярэбяць.

Маладыя каліны квецяцца.
Рой пчаліны над ярам гудзе,
І суквецці над плынню свецяцца,
Нібы воблакі на вадзе,

Нібы лебедзі ў рэчцы Лебедзь
Дакранаюцца неба ледзьве.

На купалле — здаўна так водзіцца —
З навакольных сёл да ракі
Адвячоркам дзяўчаты сходзяцца
І па рэчцы плывуць вянкі.

Самі — лебедзі — у рэчцы Лебедзь
Хочуць шчасця сваё угледзець.

## НОВЫ КОНКУРС

**Рэдакцыя «Нівы» аб'яўляе новы конкурс пад назвай**

### ЛЕГЕНДЫ НАШАЙ ВЕСКІ

**У конкурсе можа прыняць удзел кожны, хто да 31.XII.1965 г. прышле ў рэдакцыю «Нівы» запісаную ў сваёй вёсцы адну або некалькі легенд. Легенды павінны быць аўтэнтычныя (такія, якія сапраўды расказваюцца, або расказваліся ў вашай вёсцы, а не выдуманыя вамі), легенды датычыць могуць усяго: паходжання вёсак, урочышчаў, рэчак, горак, розных помнікаў, каплічак і г.д., паходжання іх назваў, цікавых легендарных падзей з мінулага вашай вёскі. Могуць гэта быць розныя «страшныя» апавяданні аб страхах, ваўках, забойцах, цікавых людзях, якія жылі ў далёкім мінулым і г.д. Удзельнікі конкурсу атрымаюць вартасныя кніжныя ўзнагароды. Больш цікавыя легенды будуць друкавацца ў «Ніве», за што тыя, хто іх прышле, атрымаюць грашовыя ганарары.**



Восенню ля Бандароў. Фота Паўлючук

# Оскар Лянге



2 кастрычніка 1965 года пасля цяжкай хваробы памёр Оскар Лянге. Смерць вырвала з нашых радоў вялікага чалавека, партыйнага дзеяча, вучонага.

Оскар Лянге нарадзіўся 27 ліпеня 1904 года. Закончыў Кракаўскі універсітэт. Пасля выступае ўжо як зрэлы дзеяч сацыялістычнага руху і навуковы работнік. Адзначаецца вялікаю палітычнаю заангажаванасцю, з чаго ўлады былі вельмі нездаволеныя. Гэтая сітуацыя неяк змушае Яго да выезду ў ЗША, адкуль вяртаецца ў 1937 годзе. Не атрымаўшы працы ў польскіх навучальных установах выязджае зноў у ЗША, куды яго запрасілі тамтэйшыя універсітэты.

У гадах акупацыі О. Лянге стаўся вядомым дзеячам і аўтарытэтам левых кругоў польскай эміграцыі.

Пасля вяртання, у 1945 годзе, на Айчыну з'яўляецца паслом Польшчы ў ЗША і прадстаўніком у Радзе Бяспекі. Ад 1948 года з'яўляецца пастаянна членам ЦК ПАРП і паслом у Сейм. Ад 1955 года — член, а потым намеснік старшыні Рады Дзяржавы.

Др О. Лянге — гэта вялікі міжнародны дзеяч, які два разы быў старшынёй еўрапейскай камісіі ААН па гаспадарчых справах, а таксама як эксперт па эканамічных і грамадскіх рэзультатах раззбраення. Як адзін з найбольш выдатных эканамістаў сучаснасці з'яўляецца дарадчыкам многіх краін свету. О. Лянге — гэта член многіх акадэмій і міжнародных навуковых таварыстваў.

Паралельна да грамадскай дзейнасці праф. др О. Лянге адзначаецца незмардаванасцю ў навуковай дзейнасці. У 1952—64 гадах з'яўляецца рэктарам С.Г.П.іС., а затым кіруе кафедрай палітычнай эканоміі Варшаўскага універсітэта. Яго лекцыі на універсітэце адзначаліся як вялікае здарэнне ў навуковым свеце. Вядомыя навуковыя працы Яго гэта: «Студыі аб эканамічнай тэорыі сацыялістычнай гаспадаркі», «Тэорыя рэпрадукцыі акумуляцыі», «Палітычная эканомія» — якой не закончыў, і іншыя.

Адышоў ад нас чалавек, які сваім жыццём, дзейнасцю і навуковымі дасягненнямі вызначыў сабе рангу і месца ў памяці народа, рангу найбольш выдатнага вучонага нашых часоў.

# СЦЕЖКАМІ ВЯЛІКАГА ПАЭТА

Юркая аўтамашына імчыць нас па гладкай шашы Навагрудак — Баранавічы. Мільгаюць палеткі, вёскі. Залатая восень кладзе свой адбітак на акаляючыя мясціны. Уздоўж дарогі зеляне ўжо густая рунь, ляцяць белыя валокны павуціння.

Вёска Валеўка. Калі ўзяць крыху ўлева, распачынаецца ўжо другі раён — Карэліцкі. А калі ехаць прама, хутка ўбачыш маляўнічыя берагі возера Свіцязь. Такой назвай імянуецца і калгас «Свіцязь», цэнтр якога знаходзіцца ў Валеўцы.

У гэтым месцы мы заварочваем улева і едзем у Карэліцкі раён. Шлях туды трымаем невыпадкова. Навагрудскія і Карэліцкія калгасы — даўнія дружбакі. Вось ужо некалькі год яны спаборнічаюць паміж сабою за высокія паказчыкі ў паляводстве і жывёлагадоўлі, супольнымі сіламі і сродкамі будуюць калгасны дом адпачынку на Свіцязі.

Якіх поспехаў дабіліся суседзі? Гэтае пытанне нас цікавіць цяпер.

Машына нясецца паміж палёў. Тыя ж, што і ў Навагрудскім раёне, узгоркі, лагчыны. Тыя ж грушы - дзічкі каля дарог. Якія ж гэта родныя і блізкія сэрцу мясціны! Па гэтай дарозе калісьці ездзіў і хадзіў вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч.

Гісторыя і назвы калгасаў і вёсак звязаны з многімі выдатнымі падзеямі.

...Першы карэліцкі калгас. Ён носіць назву імя Якуба Коласа. Гэтая назва не выпадковая. Выдатны беларускі паэт пасля вайны тут выбіраўся ў Вярхоўны Савет СССР. Сустракаўся з калгаснікамі, рабочымі. На беразе возера Свіцязь стаіць высокі дуб, які носіць назву Данілы — сына Коласа.

Крыху далей распачынаецца калгас імя Гастэлы. Невыпадковая гэта таксама назва. Адсюль, з вёскі Плужыны, калісьці бацька Мікалая Гастэлы адправіўся ў далёкі шлях у пошуках лепшага жыцця. Ён, бачна, многа легенд расказваў свайму сыну аб мужных людзях, якія ніколі не скараліся перад ворагамі. Магчыма, пад гэтым уплывам і здзейсніў свой гераічны ўчынак Мікалай Гастэла, накіраваўшы палаючы самалёт на скапленне варожых танкаў і гармат.



Палац культуры ў вёсцы Кайшоўка. Фота Леаніда Корзуна

Ідуць палі калгаса «Савецкая Армія». У вёсцы Варонча, як перадаецца з пакалення ў пакаленне, быў калісьці Адам Міцкевіч. Паказваюць нават дубволат у шэсць абхватаў, які стаіць над люстранай гладдзю вялікай сажалкі, дзе любіў адпачываць паэт.

Адам Міцкевіч у сваім выдатным творы «Пан Тадэуш» успамінае гэтае месца: «І мае сто вазоў сецяў у замку Варанчанскім».

У Варончы, ды і ў суседніх вёсках, жывуць аднафамільцы многіх герояў гэтага твору. Ёсць прозвішчы Сапліцаў, ёсць нават вёска пад такой назвай.

Адсюль зусім блізка Туганавічы, дзе ў 1818—1820 гадах гасціў у свайго сябра Міхаіла Верашчакі вялікі паэт. Тут ён пазнаў і пакахаў Марылю.

Але едзем далей. Паабапал дарогі густыя прысады з ліп і клёнаў. У хуткім часе перад намі вёска Цырын — цэнтр калгаса «Ленінскі шлях». У баладзе «Свіцязь» Міцкевіч успамінае гэтую вёску. Мясцовы памешчык перш чым прыступіць да вывучэння возера, даў малебен ў многіх касцёлаў. Сюды нават прыехаў ксёндз з Цырына.

Як расказваюць легенды, вельмі многа цемнаты і адсталасці было раней тут. А вось за гады Савецкай улады 600 выпускнікоў Цырынскай сярэдняй школы атрымалі вышэйшую адукацыю. Яны сталі аграномамі, інжынерамі, урачамі, афіцэрамі Савецкай Арміі.

Адсюль зусім блізка знаходзіцца вёска Кайшоўка — цэнтр калгаса «Зара». Бадай не было раней больш цёмнага кутка, як гэтая вёска. Цяпер уздоўж вуліцы высяцца новыя дамы пад шыферам і чарапіцай, на палях працуюць трактары, камбайны.

Хутка мы былі ў цэнтры вёскі. Перад намі красаваўся высокі трохпавярховы цагляны будынак калгаснага Палаца культуры. Навокал буйна квітнелі кветкі, а крыху далей шырока распасціраўся сельскі стадыён.

Уваходзім у Палац культуры. У вялікім фае — карціны мастакоў. У вестыбюлі — дарагія дарожкі, прыгожыя вазоны, пад самую столь люстэркі. У залах — дзённае асвятленне.

Праходзім некалькі прасторных пакояў для работы гурткоў і трапляем у вялікую залу. Роўнымі радамі тут стаяць шыфаніраваныя дубовыя крэслы. У зале — 410 месц. У ім шырокі кінаэкран. Тры разы ў тыдзень дэманструюцца кінафільмы. Летам у калгаснікаў пабывалі і паставілі п'есы артысты мінскіх тэатраў і другіх. Ёсць у калгасе і свой хор, які налічвае 35 чалавек. Самадзейныя артысты выступаюць на калгаснай

(Працяг на стар. 4)

Наша акцыя

## КНІЖКІ ДЛЯ ДОМА КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў ГАРАДКУ

Падарунак беларускага савецкага паэта **Івана Калесніка** з уласнаручнай дэдыкацыяй:

Іван Калеснік — Пяць сузор'яў (зборнік вершаў).

## Успаміны 24

**Прагна чакаў я нядзелі. Гаварылі, што ў нядзелю не гоняць на работу, што можна адпачыць. У думках лічыў дні і гадзіны. Найгорш было спаць. Дзесяткі нарываў, раздушаных у дзень, засыхаючы, пяклі, як агонь. Здавалася, што нейкая гадзюка ўпілася ў цела вострымі кіпцюрамі ды раз - пораз разрывае скуру. Не мог ляжаць. А раніцай ледзь злазіў з нараў. І толькі свядомасць, што зараз пасля пабудкі ўварвецца ў залу паліцай Маркоўскі або Сітко ці нейкі іх сябра і пачне зноў біць... Толькі гэта ставіла на ногі. Аднекуль знаходзіліся сілы, і як кожны дзень, разам з усімі бег я на пераклічку.**

**І вось дачакаўся нядзелі, першай маёй нядзелі ў Картуз - Бярозе.**

**Святочны дзень распачаўся, як усе папярэднія. Пабудка, «гімнастыка», пераклічка, снеданне, «гімнастыка». Пасля снедання сабралі ўсіх на рапартным панадворку. З'явіўся камендант Балеслаў Грэфнер. Прыняўшы рапарт ад дзяжурных, рэзка загадаў:**

**— Камуністы, не веруючыя, яўрэі — выступіць!**

**Выступіла нас чалавек са 30.**

**— Для іх свята няма! — заявіў інспектар паліцыі, Грэфнер. — Забраць іх на кухню! Усе іншыя — на малебен! — распарадзіўся наш цар і бог.**

**Дзяжурныя паліцаі разбілі нас на групы. Адных паслалі на кухню памагаць пастаяннаму кухару рыхтаваць страву, другім даручылі мётлы і прыказалі замятаць, а я трапіў у групу, якая чысціла бульбу.**

**Пасярэдзіне квадратнай камеры ляжала горба бульбы. Было нас тут чалавек 10. Расселіся мы пад сценкамі на нізенькіх лаўках. Адчуваў я амаль сардэчную ўдзячнасць каменданту Грэфнеру, што па яго прыказу давялося мне быць пры гэтай рабоце. Выгодна рассеўшыся на лавачцы, можна было свабодна выцягнуць ногі. Як жа даўно я так сядзеў.**

**Сярод пальцаў скручваюцца стужкі бульбяных лупінак. Звычайная, мірная, карысная праца. А горба бульбы аграмадная. Значыць, хопіць надоўга.**

**На момант забываю, што я арыштаваны. І толькі раўнамерныя крокі на калідоры вяртаюць свядомасць рэчаіснасці. Гэта шпацыруе наш ахраннік. Калі адыходзіць ён у глыб калідора, таварышы шэптам заводзяць гутарку. Дадумваюся: тут выключна камуністы. Усе іншыя пайшлі на малебен. Гавораць шчыра, пра найважнейшыя бярозаўскія справы. Слухаю з адкрытым ротам. Лаўлю абарваныя ў палавіне сказы, нейкія таямнічыя словы і цалкам для мяне-навічка незразумелыя лозунгі. А найбольш здзіўляе мяне слова: КАМУНА. Камуна тут — у картуз-бярозаўскім пекле? Несамаверна! Аднак яна ёсць, дзейнічае! Тайком, штоправўда, але дзейнічае!**




**Вось «кіраўнічая тройка» разглядае актуальнае становішча камуністаў у лагеры. Ад прысутных дэлегатаў залаў плывуць падрабязныя інфармацыі: хто, за што і як доўга сядзеў у карцыры, якім чынам дапамагалі ім нашыя таварышы, якія і адкуль можна дастаць весткі, як наладжваць кантакты між заламі. Паўтараюцца паведамленні аб правакацыях украінскіх нацыяналістаў.**

**— Гэтыя правакацыі — вада на паліцэйскі млын! — сярдзіта сцвярджае адзін з таварышаў.**

**— Як толькі можна не дапускаць да іх! — дабаўляе другі.**

**Шырока адкрываю вочы. Дзе я? У Картуз-Бярозе? Гэта ж сапраўдная партыйная нарада! Яўны сход камуністаў!**

**Паліцэйскі набліжаецца да «бульбянай» камеры. Зашнуроўваем губы. Чутна скрыгочуць нажы, паскораным рытмам зліваюцца лупінкі, плюскаюць белыя бульбінкі.**

**— Хутчэй там! — грыміць паліцай, растапырыўшы ногі ў прамавугольніку адчыненых дзвярэй. — Не гультайнічаць!**

**І крокі яго чокаюць зноў па калідоры. У «бульбянай» камеры аджывае дзелавіты шэпт.**

**Раптам лаўлю словы, якія адносяцца непасрэдна да мяне. Сэрца б'ецца ад радасці: таварышы лічаць мае паводзіны, як прыкладнае для камуніста! Разгублена коўзаюся позіркам па тварах. Сярод іх я хіба наймалодшы.**

**— Прапаную таварыша Савіцкага паклікаць на дэпутата залы, — адзываецца нейкі незнаёмы, старэйшага ўзросту таварыш.**

**Чую на сабе позіркі ўсіх прысутных. Крокі паліцэйскага чокаюць штораз чутней. Усе маўчаць і толькі сцвярджальна ківаюць галовамі.**

**— Значыць, ніхто не пратэстуе, — сцвярджае гэты ж самы таварыш, калі мінае паліцэйская пагроза. — А ты, — звяртаецца да мяне, — згаджаешся?**

**— Я ніколі не адказваўся ад партыйных заданняў, — шапчу дрыжачым ад хвалявання голасам, хаця яшчэ не вельмі ведаю, што можа і мае рабіць у тутэйшым «пекле» дэпутат залы.**

**— Абавязкам тваім — утрымаць парадак у зале і арганізаваць дапамогу таварышам, калі каго сярод нас пасадзяць у карцыр, — інфармуюць таварышы. — Загады будзеш атрымоўваць ад членаў кіруючай тройкі. Ніхто нічога не мае права прадпрыймаць без згоды камуны. Разумееш?**

**Зноў набліжаецца паліцэйскі. Арыштаванаму нельга гаварыць, арыштаваны толькі адказвае на пытанні! Гэта тут закон. А мне шуміць у галаве. Значыць, ахраннікам не ўдалося перэўтварыць нас у бязвольнае быдла. Сумленне камуніста цвярдзейшае за сталь. Не паддаецца паліцэйскім палкам.**

**Нядзеля, першая мая нядзеля ў Картуз-Бярозе праходзіць сапраўды ў святочным настроі. Чую свежы пры-**




Класіфікацыя цэн на лён гэта, брат, такая штука, што не аднаго разумнага можа давясці да дурноты. Быў у мінулым годзе лянок замораны, бо пагода абышлася з ім, бы мачаха з сіратою. Ніхто не меў добрага ільну і скупшчыкі задаволіліся тым, што людзі ім папрывозілі — плацілі нават першагатунковыя цэны.

Скупшчыкі круцілі галовамі, але плацілі Цяпер, кажуць, лён удаўся на славу. Накланяліся бабы перад ільном, ох, накланяліся.

Кланяліся вырываючы яго, кланяліся раскладаючы яго на падмоклых лужках, кланяліся збіраючы яго і зноў раскладаючы на сухіх пясчаных пагорках, каб сонца яго сушыла і ветрык ласкаў. Потым з любасцю кумячылі яго, ох, накумячыліся-натрапаліся нашы бабы. Лён не пшаніца, якую скасіў, змалаціў і баста.

# ДЫШЛЕВАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ

Пачалі людзі прывозіць серабрысты лянок доўгакосы, а скупшчыкі закруціліся, бы чмялі на саломінках. Аказалася, чамусьці не плацяць цэн першагатунковых, хаця ў мінулым годзе плацілі нават за горшы лён.

Скупшчыкі — народ каваны на ўсе чатыры ногі, знайшлі вытлумачэнне. Кажуць:

— Лён павінен быць сухім як перац.

— Перац па пяцьсот злотых за кілаграм, — сказала цёта.

— Лён не перац табе, баба! — віснуў скупшчык, аж усе паціхлі.

Найадважнейшым у нас дзядзька Сцяпан, які яшчэ ў царскую вайну даслужыўся медалёў поўныя грудзі. Ён сказаў уголас:

— Панімаем як разгружаем, а як палучаем — нічога не панімаем. Быў лён рахітычны — пайшоў за першы гатунак, удаўся цяпер лён добры — стаў другім гатункам, таму, што лён не перац...

Скупшчык адчуў дзядзькаву адвагу, таму прамаўчаў яго філасофію.

— Мы рукі надрываем, а вы цэны! — выпаліла старая Ольга і тут жа схавалася за спіны другіх бабаў, каб скупшчык не пазнаў яе.

— Класіфікацыя бы дышаль, куды не павярні — вышаў, — зажартаваў скупшчык, каб людзі не злавалі. Але з яго жарту нават бабы не засмяяліся.

ДЗЯДЗЬКА ЛЯВОН

### УПЭЎНЕНАСЦЬ

Мужчына стаяў каля рэчкі і пільна глядзеў супраць плыні.

— Чаго ты глядзіш? — спыталі ў яго прахожыя.

— Бяда. Жонка ўтапілася.

— Дык ты ж глядзі не супраць, а па плыні вады, — параілі яму.

— Не, я добра ведаю сваю жонку: яна ўсё рабіла наадварот.

### КВАТАРАНТ

Да следчага прывялі двух злодзеяў.

— Дзе ты жывеш? — пытае ў аднаго з іх следчы.

— Пад мостам, — не задумваючыся, адказвае той.

— А ты? — спытаў ён другога.

— А я ў яго на кватэры. — спакойна адказаў другі.

## У ЗАГСЕ



— Кахаеце? Праверым...

### НЕ НА ТОЙ НОЦЕ

Пачуўшы песню Салаўя,
Сказала Жаба,
Седзячы ў балоце,
— Што Салавей!
Не ў захапленні я,
Не на маёй спявае ноце.
Ніяк яго
Не разумею —
Няўжо ён квакаць
Не ўмее?

Яўген Крупенька



— Паглядзі! Самая новая мадэль.



### ЯШЧЭ НЕ МОЖА

Маленькі хлопчык робіць нешта пад вярбою. Дзень сонечны, але халаднаваты. Маці кажа:

— Іванка, ідзі па сонейку пагуляй.

— Я яшчэ ракеты не закончыў, каб па сонейку гуляць, — адказвае хлопчык.

### АПРАЎДАЎСЯ

Маці сварыцца на свайго малога сына, які спазніўся на вячэру.

— Лёня, я дзве гадзіны клічу цябе да стала, а ты ўсё не ідзеш. І хто толькі з цябе выйдзе?

— Афіцыянт, — адказвае сын.

### НЕЧАКАНАЯ ПАДЗЯКА

Ідуць па лесе двое Адзін — наперадзе, другі — ззаду.

Першы, каб не абыходзіць дрэва, узяў і добра адцягнуў галіну. Калі ён адпусціў яе, яна, як спружына, моцна сцебанула па твары другога. Пасля гэтага пацярпеўшы і гаворыць:

— Дзякуй табе, што прытрымаў галіну, а то б магла насмерць забіць.




**Якая б прыемная цішыня настала, каб людзі гаварылі толькі тое, аб чым добра падумалі.**

# НЕ СКАЗАЛІ

Супрацоўнікі былі прыемна здзіўленыя.

— Вы заўважылі, — сказала Ганна Міхайлаўна, — наш Іван Пятровіч сёння такі добры, мілы. Ён нават павітаўся са мною за руку...

— Са мною таксама, — пасвятлеўшы ад радасці, сказала Ніна Хведараўна.

Падзея сапраўды была незвычайная. Начальнік аддзела Іван Пятровіч быў сёння, як ніколі, ветлівы. Замест звычайнага абыякавага кіўка галавою ён з усімі павітаўся за руку, нават шуткаваць спрабаваў.

Перамены ў паводзінах начальніка вельмі ўсім спадабаліся. Супрацоўнікі з падвоенай энергіяй узяліся за працу.

Праз некалькі гадзін Іван Пятровіч выйшаў з кабінета і з мяккаю ўхмылкаю на акругленым твары сказаў:

— Я, таварышы, на канферэнцыю пайшоў... Вы ўжо тут без мяне спраўляйцеся...

Ніхто і ўвагі не звярнуў на тое, што на прафсаюзнай канферэнцыі былі дэлегаты і ад аддзела, якім кіруе Іван Пятровіч. Яны, вядома, маглі пры выпадку сказаць усім на канферэнцыі пра некаторыя не зусім вартыя якасці свайго кіраўніка. Маглі...

А на наступны дзень Іван Пятровіч, як заўсёды, роўна ў дзевяць гадзін раніцы прайшоў у свой кабінет, на хаду абыякавым кіўком галавы павітаўся з супрацоўнікамі.

А праз некалькі мінут голас яго грымеў бурнымі раскатамі. Іван Пятровіч некага разносіў за якуюсьці коску, пастаўленую не да месца ў пададзеным на подпіс дакуменце.

І супрацоўнікі зразумелі:

— Івана Пятровіча выбралі.

З. Ільеўскі

# УСЯЧЫНА

## КОЛЬКІ ЗНАКАЎ?



Прыглядзцеся ўважліва знакам, якія намаляваны ў рамцы. Затым, з гадзіннікам у руках, на працягу трох мінут пастарайцеся праверыць, колькі розных знакаў змяшчае табліца.

Развязка — унутры нумара.

### КУР'ЁЗЫ

Адна дама на працягу доўгага часу безвынікова намагалася запрасіць да сябе ў госці Марка Твена. Урэшце паслала яму наступны ліст: «Місіс А. М. Сміт у аўторак паміж 15 і 18 гадзінамі будзе дома». Неўзабаве яна атрымала назад свой ліст з прыпіскай: «Я таксама. Марк Твен».

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе дзяўчат з Альхоўкі, Гайнаўскага павета змяшчаем польскую песню:

## BAL ARLEKINA



I.

W wielkim sklepie z zabawkami,
Pełnym wystrojonych lal,
Nocą gdzieś za żaluzjami
Chce Arlekin wydać bal.
Pragnie zdobyć Colombinę
I ballady śpiewać dziś....
Stroił właśnie mandolinę,
Gdy mu pluszowy szepnął miś:

To nie te czasy Arlekinie, nie te czasy,
Dziś saksofony Arlekinie, kontrabasy
I nie da rady zdobyć serca przez ballady,
Bo dawno minął, minął czas arlekinady.
Dziś Colombiny chcą begiuny, albo twista,
To Arlekinie, nim noc minie
Wykorzystaj i zatańcz twista z Colombiną,
Która wie, że tylko twista, twista, twista tańczy się.

II.

Wielki bal już się zaczyna,
Wszędzie tylko, tylko twist.
Tańczy piękna Colombina,
A Arlekin pisze list.
„Pani! Kocham Cię szalenie,
Lecz zagłusza serca rytm
Modne mocne uderzenie
I serc nie słychać przez big-beat”.

To nowe czasy Arlekinie... itd.

